**№ 81 (4026)**

16 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Ідзе падпіска на «Народную Волю» на лістапад-снежань і першую палову 2016 года.**

# *І зноў, як у савецкія часы, «вялікі хурал»: чакаецца пяты так званы Усебеларускі народны сход. Каб падняць заробкі да абяцаных 1000 долараў, чатырох сходаў аказалася мала...*

ДЭЖАВЮ

## Зноў паабяцаюць высокія зарплаты?

Усебеларускі народны сход усё ж пройдзе ў Мінску, паведаміў старшыня Савета Рэспублікі **Міхаіл Мясніковіч**, выступаючы на сесіі палаты. Праўда, канкрэтную дату мерапрыемства ён не агучыў.

Мясніковіч паведаміў, што цяпер на завяршальнай стадыі знаходзіцца падрыхтоўка прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, рэспубліканскага бюджэту і асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі на 2016 год, а таксама праекта праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на чарговую пяцігодку. Паводле слоў Мясніковіча, А.Лукашэнка прыняў рашэнне правесці 20 кастрычніка спецыяльнае пасяджэнне і разгледзець «падыходы да 2016 года і адказнасць кадраў па выкананні сацыяльна-эканамічных задач, якія стаяць перад краінай».

Як вядома, Усебеларускі народны сход праводзіўся ў краіне ў 1996, 2001, 2006 і 2010 гадах і заўсёды напярэдадні або падчас важных палітычных кампаній (рэферэндуму і прэзідэнцкіх выбараў). У гэтым годзе ўпершыню перад прэзідэнцкімі выбарамі сход не праводзіўся, на што звярталі ўвагу многія эксперты. Магчыма, таму, што многія з тых планаў, якія акрэсліваліся, і блізка не ажыццёўлены і гаварыць пра гэта з высокіх трыбун не хацелася. Што тычыцца заробкаў, дык тут і ўвогуле ўлады селі ў лужу. 6 снежня 2010 года на Усебеларускім народным сходзе Лукашэнка заяўляў, што к 2015 году сярэдняя зарплата па краіне павінна скласці каля тысячы долараў у эквіваленце, а сёння не маем і 500!

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**




**«Памер заработнай платы ў Беларусі к 2015 году павінен наблізіцца да тысячы долараў у эквіваленце...» За гэта яны галасавалі на IV Усебеларускім народным сходзе. За што будуць галасаваць цяпер?**

ПАЛІТКУХНЯ

Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:

## «Неабходна падчас парламенцкай кампаніі ў 2016 годзе правесці нешта падобнае на выбары»

*Прадстаўнікі дзевяці палітычных партый і рухаў у першым чытанні абмеркавалі тэкст агульнай заявы аб неабходнасці змен у выбарчым заканадаўстве і правапрымяняльнай практыцы.*

На сайце Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) інфармацыя пра гэта выйшла пад назвай "Беларусь: апазіцыя аб'ядноўваецца". Ці не занадта гучна сказана – "аб'ядноўваецца"?

– Я лічу, што па гэтым канкрэтным пытанні апазіцыя і на самай справе знайшла паразуменне, – кажа лідар АГП **Анатоль Лябедзька.** – Дзевяць структур бралі ўдзел у абмеркаванні вынікаў выбарчай кампаніі і таго, што рабіць далей. Наша пасланне заключаецца ў тым, што трэба пашыраць прастору і змяняць выбарчае заканадаўства. Калі ўлада сапраўды жадае перамен у краіне, пра што заяўляе, а Еўропа лічыць, што гэта варта ўвагі, то трэба рэальна змяняць сітуацыю. Неабходна падчас парламенцкай кампаніі ў 2016 годзе правесці нешта падобнае на выбары. Мы выпрацавалі пазіцыю па зменах у заканадаўстве, каб больш-менш гарантаваць людзям, што іх галасы будуць лічыць. Гэта будзе наш зварот да грамадзян краіны і міжнароднай супольнасці.

**– Якія структуры бралі ўдзел у абмеркаванні заявы?**

– Наша партыя, аргкаміты па стварэнні партый БХД, жаночай партыі "Надзея", Беларускай партыі працоўных, незарэгістраваны рух Някляева, сацыял-дэмакраты Статкевіча і Вештард, Беларуская партыя "Зялёныя" і Беларуская партыя левых "Справядлівы свет". Яшчэ спадзяёмся, што да нас далучацца Партыя БНФ і рух "За Свабоду". А вось з рухам "Гавары праўду!" сталых камунікацый няма...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЭКАНОМІКА

## Беларусь просіць у МВФ незвычайны крэдыт

У лістападзе Беларусь наведае місія Міжнароднага валютнага фонду. Міністр фінансаў **Уладзімір Амарын** распавёў журналістам, што Беларусь просіць у МВФ незвычайны крэдыт памерам 3 мільярды долараў. Гэта тая сума, якую можа выдзеліць МВФ, зыходзячы з квотнага прынцыпу. Гэтым разам фармат крэдыту не стэнд-бай, а так званы пашыраны фармат.

Журналісты папрасілі ўдакладніць, чым адрозніваюцца гэтыя фарматы. Амарын патлумачыў, што крэдыт у пашыраным фармаце прадугледжвае абавязковыя структурныя рэформы беларускай эканомікі. І, паводле яго слоў, праект гэтых рэформаў ужо перададзены для азнаямлення экспертам Міжнароднага валютнага фонду. Але ці будзе дадзены дакумент адкрыты для вольнага доступу? Міністр сказаў, што ў гэтым ён не ўпэўнены.

Амарын нагадаў, што Беларусь за 9 месяцаў 2015 года выплаціла па знешніх даўгах каля трох мільярдаў долараў і да канца года застаецца выплаціць менш як адзін мільярд.

ДАРЭЧЫ

## З аглядкай на кошт нафты

Уладзімір Амарын паведаміў таксама, што ўжо падрыхтаваны праект бюджэту краіны на 2016 год. Ён звярстаны з прафіцытам бюджэту ў памеры 2% ВУП. Разлікі зыходзілі з таго, што ў наступным годзе адзін барэль нафты будзе каштаваць у сярэднім 57 амерыканскіх долараў.

РЭАКЦЫЯ



Міклаш ХАРАШЦІ,
спецдакладчык ААН, пра выбары ў Беларусі:

## «Несвабодныя, несумленныя, але без насілля»

*«Выбарчы працэс быў зрэжысіраваны, а вынік – прадвызначаны»,* – заявіў спецдакладчык ААН па сітуацыі ў Беларусі **Міклаш Харашці**, каментуючы прэзідэнцкія выбары, якія прайшлі 11 кастрычніка. Тэкст заявы апублікаваны на сайце ўпраўлення Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека.

Харашці адзначыў, што акцыі супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў не разганяліся з прымяненнем сілы, але пры гэтым выказаў шкадаванне аб тым, што не было ніякага прагрэсу ў забеспячэнні права беларусаў на сумленныя і адкрытыя выбары.

Міклаш Харашці падкрэслівае, што ні міжнародныя, ні мясцовыя назіральнікі не змаглі праверыць дакладнасць афіцыйных паведамленняў аб яўцы выбаршчыкаў у 86% і аб амаль 84% галасоў, аддадзеных за дзейнага прэзідэнта. *«Такія высокія працэнты не фіксаваліся на выбарах у Еўропе з часоў распаду Савецкага Саюза,* – гаворыцца ў заяве. – *Дакументы назіральнікаў паказваюць, што нават галасаванне на закрытых участках і датэрміновае галасаванне не змаглі забяспечыць такіх лічбаў».*

Харашці таксама звярнуў увагу на вялікую колькасць паведамленняў аб парушэннях у дзень выбараў, у тым ліку аб выдачы бюлетэняў без пашпартоў, галасаванні ад імя іншых людзей, «каруселях» выбаршчыкаў, укідванні бюлетэняў.

Спецдакладчык адзначыў, што ў 2013 годзе ў сваім дакладзе для Генеральнай асамблеі ААН аб выкананні правоў чалавека ў Беларусі падчас выбараў ён зрабіў шэраг рэкамендацый, але да іх урад Беларусі не прыслухаўся. У прыватнасці, Харашці ўказаў на адсутнасць незалежных выбарчых камісій з плюралістычным складам, а таксама на адсутнасць дэбатаў усіх кандыдатаў у прэзідэнты, бо беларускія тэлеканалы кантралююцца дзяржавай.

Акрамя таго, Харашці звярнуў увагу на атмасферу запалохвання падчас выбарчай кампаніі, у тым ліку шляхам пагроз аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці за заклікі да байкоту. Як адзначаецца ў заяве, хоць палітзняволеныя і былі вызваленыя напярэдадні выбараў, іх так і не аднавілі ў грамадзянскіх і палітычных правах.

Спецдакладчык вітае той факт, што сёлетнія выбары ў Беларусі абышліся без насілля, але абяцае ўважліва сачыць за тым, што зробяць улады з удзельнікамі пратэстаў пасля выбараў.

Каментуючы намеры ЕС прыпыніць санкцыі адносна Беларусі на чатыры месяцы, Харашці адзначыў, што гэта *"цудоўная магчымасць для рэформаў у галіне правоў чалавека з мэтай прывядзення яе ў адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі* (Беларусі. – ***БелаПАН.***) *і патрэбамі грамадзян».*

Сярод рэкамендацый па паляпшэнні сітуацыі ў краіне Міклаш Харашці называе ліквідацыю дазвольнага прынцыпу правядзення мітынгаў, адмену артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса (удзел у дзейнасці незарэгістраванай арганізацыі), правядзенне рэформаў у сферы выбарчага заканадаўства і дзейнасці СМІ, забеспячэнне незалежнасці суддзяў, увядзенне мараторыя на смяротную кару.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА.**

(БелаПАН.)

ТЫМ ЧАСАМ

## Беларусь чакае поўнай адмены санкцый

Пра гэта заявіў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў **Дзмітрый Міронччык** на брыфінгу ў Мінску.

*«Наша пазіцыя па тэме антыбеларускіх санкцый вядомая: яны паказалі сваю неэфектыўнасць і бесперспектыўнасць. Чакаем іх поўнай адмены і спадзяёмся, што гэта адбудзецца як мага хутчэй»,* – заявіў Міронччык.

Як вядома, 12 кастрычніка міністры замежных спраў краін Еўрасаюза на пасяджэнні Савета ЕС дамовіліся аб прыпыненні на чатыры месяцы санкцый адносна Беларусі, аднак афіцыйнае рашэнне па гэтым пытанні павінна быць прынята да канца кастрычніка.

Пад візавыя і фінансавыя санкцыі Еўрасаюза трапляюць прыкладна 20 прадпрыемстваў і 175 беларускіх грамадзян, якіх ЕС абвінавачвае ў парушэнні правоў чалавека і фінансаванні беларускага рэжыму.

УЧОРА

## Каб не залежаць ад расійскага газу...

Літва, Польшча і Еўракамісія (ЕК) 15 кастрычніка падпісалі дамову пра фінансаванне праекта газаправода паміж Літвой і Польшчай (GIPL). Кіраўнік Еўракамісіі **Жан-Клод Юнкер** адзначыў, што газаправод паміж Літвой і Польшчай з'яўляецца першым інфраструктурным праектам, які злучыць краіны Балтыі з рынкамі Заходняй Еўропы.

*"Вы зрабілі больш, чым проста злучылі газаправоды, вы зрабілі больш, чым проста злучылі дзве краіны. Вы паклалі канец энергетычнай ізаляцыі краін Балтыі, вы паклалі канец працяглай залежнасці краін ад адзінага пастаўшчыка, злучылі ўвесь рэгіён з астатняй Еўропай»,* – сказаў учора на прэс-канферэнцыі ў Брусэлі кіраўнік ЕК Жан Клод Юнкер, звяртаючыся да прэзідэнта Літвы і прэм'ера Польшчы.

Паводле слоў Жана Клода Юнкера, інвестыцыі Еўрасаюза (ЕС) у гэты праект – самыя вялікія інвестыцыі такога роду ў гісторыі ЕС.

На праект коштам 555 млн еўра ЕК выдзяляе 295 млн еўра з Фонду CEF Еўрасаюза, а яшчэ 10 млн еўра будзе выдзелена на даследаванні.

Важны для Літвы і ўсяго ЕС праект дасць магчымасць рэалізаваць ідэю энергетычнага саюза і вырашыць праблему залежнасці Балтыйскіх краін ад расійскага газу.

СІТУАЦЫЯ

## Мінскія ўлады адступаюць?

Апошнім часам дзякуючы супольным намаганням гараджан сталічныя ўлады вымушаны адмаўляцца ад сваіх планаў ушчыльнення забудовы горада. Цяпер нават уносяцца карэктывы ў Генеральны план Мінска. Праўда, пакуль не вядома, ці зменіць гэта сітуацыю і ў які бок. Між тым толькі сёлета жыхары Чыжоўкі "адбіліся" ад будаўніцтва жылых дамоў на месцы зоны адпачынку, жыхары вуліцы Гарадскі Вал атрымалі перадышку ў змаганні за маленькі лапік зямлі, на якім улады планавалі пабудаваць чарговы гатэль з казіно.

Святкуюць перамогу жыхары дамоў ля чыгуначнага вакзала, якія ў народзе называюць "парадпай брамай" беларускай сталіцы. Яны дабіліся адмены будаўніцтва шматпавярховікаў у сваім двары. Але на гэтай тэрыторыі ў межах вуліц Кірава, Свярдлова, Ульянаўскай і Бабруйскай размяшчаюцца гаражны кааператыў і былы будынак дзіцячага садка, які знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасці. У 1990-х садок закрылі і перапрафілявалі ў падраздзяленне Міністэрства ўнутраных спраў і Следчага камітэта. Цяпер будынак не выкарыстоўваецца. Не выключана, што там будзе філіял гімназіі №75, прынамсі пачатковыя класы. Але яснасці няма, жыхары гадаюць, што будзе ў іх двары – гімназія, школа боксу ці ўсё ж такі шматпавярховікі?

Справа ў тым, што кадастравы кошт гэтай зямлі тры з паловай мільёны долараў. Забудоўшчыку ж яна дасталася ўсяго за 280 тысяч долараў. Як такое магло адбыцца, калі ў тым раёне толькі адна добрая кватэра каштуе столькі ж?

**Любоў ЛУНЁВА.**

СЛЫШАЛИ?

## Как «прорусский Гигин» ставил на место россиян...

*На днях в Посольстве Беларуси в России состоялся экспертный видеомост Москва–Минск на тему «Перспективы белорусско-российских отношений в контексте президентских выборов в Республике Беларусь». Для прессы этот видеомост был закрыт. Видимо, чтобы поговорить откровеннее. С белорусской стороны принимали участие* ***Вадим Гигин, Юрий Шевцов, Сергей Кизима и Александр Шпаковский***

*После мероприятия российский политолог* ***Олег Неменский*** *в своем блоге обвинил своих белорусских коллег, с которыми вел дискуссию, в шовинизме и ненависти к "русскому миру".*

"...с белорусской стороны шел шквал претензий и наездов. Очевидно, такова была задумка. Но смысл странный, – *написал Неменский.* – Нас, российских экспертов, обвиняли в том, что у нас издают книжки их оппозиционеры, выступают на телевидении плохо относящиеся к Лукашенко политологи и общественные деятели, все больше появляется «русской националистической критики» Белоруссии и т.д. Особенно разошелся прежде вроде как умеренно прорусский Гигин, который просто кричал, перебивал, оскорблял, возмущался и т.д. Никак не ожидал от него столь базарного поведения.

Но главное, что объединяло белорусских экспертов, – это ненависть к Русскому миру. Очевидно, с того момента, как Лукашенко объявил ему войну, эксперты выстроились в ряды. Особенно позабавила ультрарусофобская речь Кизимы, который очень боится «русификации Белоруссии» и даже поставил условие: если вы хотите интегрироваться с Белоруссией, то должны отказаться от русского патриотизма. Такой вот шантаж: либо вы себя убиваете, либо мы от вас отворачиваемся. «Что для вас важнее: интеграция или идеология?» Самое интересное, что лукашенковские эксперты действительно думают, что могут ставить России такие условия. Примечательно, что те изменения, которые произошли в России весной прошлого года, настолько пугают официально-белорусскую сторону, что она даже не пытается найти какой-то свой модус вивенди с нынешней Россией. Она просто в истерике и требует все отменить. Как очень точно сказал один из российских экспертов: они хотят интегрироваться только со слабой и забывшей себя Россией».

